# Праблема мовы ў Савецкім Саюзе

Савецкая прэса апошнімі часамі прысьвячае шмат увагі пытаньню нацыянальных дачыненьняў, канстатуючы ўзмацненьне т. в. «нацыяналістычных тэндэнцыяў» у нацыянальных рэспубліках Савецкага Саюзу.

Праклямуючы на XXI зьезьдзе КПСС пачатак новага этапу ў разьвіцьці савецкага грамадзтва, гэтак званы пэрыяд разгорнутага будаўніцтва камунізму ў СССР, кіраўніцтва ЦК КПСС вельмі мала паклапацілася аб распрацоўцы тэарэтычных палажэньняў пабудовы савецкага грамадзтва ў наступаючым пэрыядзе. Тэарэтычныя разважаньні Хрушчова на зьезьдзе над гэтым пытаньнем датычылі галоўным чынам эканамічных праблемаў гэтага грамадзтва, аналізу вытворчых дачыненьняў і распадзелу працы ў ім, прынцыпу яго аплаты, гэта значыць — перадумоваў, што забясьпечваюць, паводля азначэньня савецкага кіраўніцтва, стварэньне матар'яльна-тэхнічнай базы камунізму. Пытаньні духовага аблічча будучага грамадзтва й яго сяброў у дакладзе Хрушчова і ў рэзалюцыях зьезду зусім не закранутыя.

Заўважаецца, што ўсе гэтыя праблемы ЦК КПСС пробуе нагнаць публікаваньнем тэарэтычных артыкулаў аб ідэялягічных пытаньнях у сваіх друкаваных органах.

У сувязі з тым, што ўсё больш і больш насьвятляюцца й пытаньні нацыянальных дачыненьняў у будучым новым грамадзтве, функцыяў нацыяў у ім ды ролі мовы, як фактару, што вызначае форму новай, павіннай стацца ў камуністычным грамадзтве ня толькі паводля зьместу, але й паводля формы камуністычнай, культуры.

Апошнімі часамі зьявілася шмат артыкулаў аб пытаньнях нацыянальных дачыненьняў у новым савецкім грамадзтве.

«Уваход СССР у пэрыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадзтва паказвае сабой новы этап у разьвіцьці сацыялістычных нацыяў і нацыянальных дачыненьняў», — пішацца ў «Вопросах философии» (№ 7, 1959, б. 35).

У чым-жа канкрэтна павінна праявіцца новасьць нацыянальных дачыненьняў у СССР у надыходзячым пэрыядзе? У тэарэтычных артыкулах аб гэтым пытаньні вельмі шмат старое фразэалёгіі аб срогай пасьлядоўнасьці ў ажыцьцяўленьні й на новым этапе савецкага грамадзтва «ленінскіх прынцыпаў» нацыянальнай палітыкі партыі. Аднак усё яскравей і яскравей прабіваецца цьверджаньне аб неабходнасьці пераходу да зьліцьця нацыяў і нацыянальных культураў у СССР. Ужо цяпер галоўным стрыжнём гэтае канцэпцыі — гэта неабходнасьць стварэньня (увядзеньня) адзінае «агульналюдзкое» (інтэрнацыянальнае) мовы. У тэарэтычным воргане ЦК КПСС, часапісе «Коммунист» (№ 13, 1959, б. 39) з гэтае нагоды гаворыцца:

«Зьліцьцё нацыяў і нацыянальных культураў нельга ўявіць як працэс, які можа пачацца толькі пасьля перамогі камунізму ўва ўсіх краінах сьвету. Стварэньне ў будучыні адзінае агульналюдзкое мовы й зьліцьцё нацыянальных культураў у вадну агульналюдзкую культуру — гэта складаны й доўгі шлях, які, на нашу думку, мае свой пачатак ужо ў нашай рэчаіснасьці».

Аб тым, як кіраўніцтва ЦК КПСС намерваецца разьвязаць праблему «агульналюдзкое мовы» камуністычнага грамадзтва, гаворыцца ў часапісе «Вопросы философии» (№ 7, 1959, б. 41).

«На базе агульнай для ўсіх нацыяў сацыялістычнай сыстэмы гаспадаркі й адзінага дзяржаўнага ладу, а таксама адзінай сацыялістычнай паводля зьместу культуры зьявілася неабходнасьць агульнае для ўсіх нацыяў мовы. Функцыі такое мовы міжнацыянальных зносінаў выконвае расейская мова — мова вялікага народу».

Такім чынам расейская мова ўжо цяпер абвяшчаецца мовай «міжнацыянальных зносінаў» ня толькі для народаў, што цяпер уваходзяць у склад Савецкага Саюзу, але й для «ўсіх нацыяў сацыялістычнае сыстэмы», гэта значыць — для ўсіх краінаў камуністычнага блёку.

Аб умацаваньні ейных інтэрнацыянальных функцыяў у будучыні далей гаворыцца наступнае:

«У працэсе далейшага будаўніцтва камунізму ўсё больш будзе збольшвацца роля расейскае мовы, як мовы міжнацыянальных зносінаў сацыялістычных нацыяў» (Тамсама).

Імкненьне ЦК КПСС да русыфікацыі моваў і культураў народаў СССР, як і падрыхтоўка перадумоваў для абвешчаньня расейскае мовы ў будучыні адзінай мовай сусьветнага камунізму — зьявішча ня новае.

Асабліва заўважна яно ўзмоцнілася ад часу Другое сусьветнае вайны, калі для ратаваньня палажэньня на франтох вайны патрабавалася перагледзець нацыянальную палітыку, выцягваючы на паверхню ўсе атрыбуты раней асуджанага вялікарасейскага шавінізму й місіянізму. Ужо тады расейская нацыя была афіцыйна пераведзена з катэгорыі роўнай сярод роўных у катэгорыю «выдатнай і кіруючай нацыі» сярод іншых роўных (БСЭ, т. 29, 1954, б. 309).

Кіраўніцтва ЦК КПСС афіцыйна падзяліла нацыі ў СССР на вышэйшую — кіруючую й ніжэйшыя — кіраваныя або падпарадкаваныя.

Такім чынам, ухіл у нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі пачатку трыццатых гадоў — «каўцкіянскі сацыял-шавінізм», зь якім у той час вялося моцнае змаганьне, цяпер ператварыўся ў генэральную лінію тэй-жа КПСС. У той час Сталін у дакладзе на XVI зьезьдзе ВКП(б) 27. 6. 1930 году казаў:

«Ці-ж ня ясна, што дамагаючыся аднае агульнае мовы ў межах аднае дзяржавы, у межах СССР, яны дабіваюцца ў сутнасьці справы аднаўленьня **прывілеяў** пануючай раней мовы, а пайменна — **вялікарасейскай** мовы? (И. Сталин, Соч., т. 12, б. 365).

Цяпер-жа гэты «сацыял-шавінізм» легалізуецца, пад яго падводзіцца тэарэтычная база. А найважнейшае тое, што цяпер упяршыню афіцыйна праводзіцца рэвізія сталінскіх палажэньняў аб праблеме мовы сусьветнага камунізму. Так аб праблеме мовы пераможнага сусьветнага сацыялізму ён казаў у 1930 годзе:

«У пэрыяд перамогі сацыялізму ў сусьветным маштабе, калі сацыялізм замацуецца і ўвойдзе ў быт, нацыянальныя мовы нямінуча павінны зьліцца ў вадну агульную мову, якая, зразумела, ня будзе ні вялікарасейскай, ні нямецкай, а чымсьці новым» (Сталин, Соч., т. 13, 1953, б. 5).

Хаця пасьляваенная палітыка ў пытаньнях мовы ў СССР самога Сталіна таксама як і палітыка цяперашняга кіраўніцтва ЦК КПСС разьвівалася ў зусім супрацьлежным да гэтага палажэньня кірунку, ягонае афіцыйнае адмаўленьне ажыцьцяўляецца якраз цяпер.

Гэтыя новыя партыйныя ўстаноўкі аб будучыні расейскае мовы бязумоўна зробяць уплыў на ўзмацненьне русыфікацыі ня толькі ў нацыянальных рэспубліках СССР, але таксама і ў краінах-сатэлітах. Расейская мова ў школах краін-сатэлітаў ужо цяпэр зьяўляецца абавязкавым прадметам.

Зьвяртае на сябе ўвагу той факт, што з практыкаваных дасюль двух мэтадаў русыфікацыі нацыянальных моваў — скрыжоўваньне расейскае мовы зь нерасейскімі й насаджваньне расейскае мовы ў цэласьці — цяпер выразную перавагу аддаецца апошняму, і гэта зразумела чаму.

Справа ў тым, што шлях русыфікацыі нацыянальных моваў пры дапамозе

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Памёр генэрал Маршал

16-га кастрычніка ў Вашынгтоне, у веку 78-мі год памёр выдатны амэрыканскі ваенны й дзяржаўны дзеяч генэрал Джордж Маршал.

Генэрал Маршал стаўся ведамым дзякуючы сваім ваенным здольнасьцям ужо ў Першую сусьветную вайну. У часе Другой сусьветнай вайны, Маршал на становішчы начальніка штабу арміі кіраваў усімі ваеннымі апэрацыямі амэрыканскіх арміяў. На ягонае жаданьне, генэрал Айзэнгаўэр быў прызначаны галоўнакамандуючым саюзнага войска ў Эўропе. Пасьля Другой сусьветнай вайны Маршал займаў шэраг важных дзяржаўных становішчаў. Ён быў асабістым прадстаўніком прэзыдэнта Трумана ў Кітаі, дзяржаўным сакратаром, і, урэшце, міністрам абароны. У той час, калі ён быў на становішчы дзяржаўнага сакратара, Маршал быў галоўным ініцыятарам пляну эканамічнай дапамогі эўрапэйскім дзяржавам, якія пацярпелі ад вайны. Гэты плян укаранаваўся бліскучым посьпехам, і цяпер ведамы ў гісторыі, як «плян Маршала». У 1951-ым годзе Маршал падаўся ў адстаўку. У 1952-ім годзе ён атрымаў Нобэлеўскую прэмію міру. Вестка аб сьмерці генэрала Маршала сустрэла жывы водгук у Амэрыцы, Канадзе і ўва ўсіх краінах Заходняй Эўропы. У адмысловым звароце да амэрыканскага народу, прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Айзэнгаўэр заявіў: «Як жаўнер і дзяржаўны дзеяч, генэрал Маршал прысьвяціў усё сваё жыцьцё свайму народу. Дзякуючы ягонай рашучасьці, настойлівасьці, мужнасьці й мудрасьці, наша краіна і ўвесь вольны сьвет захавалі свабоду й замацавалі мір». Із свайго боку, дзяржаўны сакратар Гэртэр заявіў, што стойкасьць, энэргія й сьціпласьць нябожчыка генэрала Маршала зьяўляюцца сьветлым прыкладам для ўсіх, хто ідзе па ягоным шляху.

Палітычныя дзеячы ўсяго заходняга сьвету пераслалі тэлеграмы на ймя прэзыдэнта Айзэнгаўэра із спагадай з прычыны сьмерці выдатнага ваеннага й палітычнага дзеяча Задзіночаных Штатаў. Міністар замежных справаў Італіі Пэльля заявіў, што ўся Італія з удзячнасьцяй згадвае генэрала Маршала, якому яна забавязаная аднаўленьнем і росквітам свае народнае гаспадаркі пасьля вайны. У тэлеграме міністра замежных справаў Бэльгіі Віны гаворыцца, што пасьляваенная дзейнасьць генэрала Маршала паклала аснову цяперашняга росквіту Заходняй Эўропы. Выступаючы ў радыё, заходня-нямецкі канцлер Адэнаўэр сказаў, што ўпяршыню ў гісторыі моцны й багаты амэрыканскі народ пасьля пераможнай вайны выцягнуў пераможаным руку дапамогі, даўшы ім магчымасьць ізноў аднавіць разбуранае. У ліку ініцыятараў гэтага шляхотнага гістарычнага чыну», — заявіў Адэнаўэр, — «імя генэрала Маршала стаіць на першым месцы».

# Хатка на... калёсах

(Заканчэньне з 1-ай бач.)

тэнцыямі. Так ужо прынята ў Савецкім Саюзе, што самыя небясьпечныя й сваекарысныя мерапрыемствы партыі павінны прыкрывацца апранахай прапагандовай шуміхі, «усенародным адабрэньнем». Тое самае мы й наглядаем у выпадку разрэклямаваньня ў СССР гэтае амэрыканскае візыты Хрушчова. У першую чаргу яна названа «гістарычнай візытай», што ў савецкай інтэрпратацыі азначае палітычна неабходнае мерапрыемства. З другога боку з гэтае візыты мантуюцца кінафільмы, якімі партыя думае закідаць ня толькі Савецкі Саюз, сваіх сатэлітаў, але й вольны сьвет, пішуцца аб ёй кнігі, што ў хуткасьці выйдуць мільённым тыражом, а па ўсім Савецкім Саюзе праходзіць хваля «ўсенароднага» яе адабрэньня, выносячы рэзалюцыі-падзякі Хрушчову й забавязваючы савецкае грамадзтва «яшчэ больш працаваць для дабра міру». Ведама, гэтая «ўсенародная радасьць і падтрымка» былі-б яшчэ больш эфэктоўнымі, калі-б, скажам, Хрушчоў кінуў кліч падрыхтоўкі да вайны, бо савецкаму грамадзтву заўсёды застаецца толькі адна магчымасьць — апрабоўваць тое, што ўжо даўно было задумана дыктатарам.

З гэтага гледзішча й візыту Хрушчова ў ЗША можна было-б акрэсьліць як прапагандовую хатку на калёсах, і ня толькі таму, што яна характэрная савецкая прапаганда, але тым больш, што партыя практыкуе мэтад перасовачнай прапаганды — прапаганды на калёсах.

Вось-жа нашых менскіх нявольнікаў затрывожыла ў першую чаргу крытыка дзейнасьці іхнага хлебадаўцы, наагул крытыка савецкай каляніяльнай сыстэмы й савецкага імпэрыялізму. Для абароны гэтага ганебнага зьявішча, як і для самаабароны ім таму й прыходзіцца прыбягаць да ачарненьня дзейнасьці беларускае палітычнае эміграцыі. Аднак гэта дарэмныя натугі, бо не ачарніць ім тое, што вяжыцца зь інтарэсамі народу, мае глыбокі нацыянальны сэнс і ідэю. Хоць і цяпер загнаная ў сілу палітычных абставінаў на лёд, трэба быць упэўненым, што гэтая ідэя не засуджана на зьнікненьне й з часам яна ўсё-такі пераможа зло, якое пануе ў БССР і знайшло прытулішча таксама ў той «нацыянальнай» хатцы — у сяняшнім бэсэсэраўскім урадзе.

**П. Залужны**

# Колькі Беларусаў у канцэнтрацыйных лягерох СССР

У канцы леташняга году ў выдавецтве Латыскага Нацыянальнага Фонду ў Штакгольме зьявілася кніжка Адольфа Шыльдэ «Выгоды зь нявольніцтва. Балтыцкія зьняволеныя работнікі й ссыльныя пад Сталінам і Хрушчовам». Кніга напісаная на аснове апытаньня каля дзьвюх тысячаў нямецкіх і аўстрыяцкіх ваеннапалонных, што былі выпушчаныя з Савецкага Саюзу ў часе ад кастрычніка 1955 г. да канца 1957 г.

На аснове багатага матар'ялу аўтар робіць выснаў, што ніякія дэкрэты й амнэстыі ня зьменшылі колькасьці вязьняў у Савецкім Саюзе, на дармавой працы якіх у вялікай меры базуецца савецкая эканоміка. Паводля Шыльдэ, і цяпер у СССР — больш за 15 мільёнаў канцлягернікаў.

Апісваючы лягеры Варкуты, аўтар падае склад аднаго з варкуцкіх лягероў паводля нацыянальнасьцяў. Ён піша:

«У вадным зь лягераў Варкуты, у якім лік палітычных вязьняў да 1956 году вагаўся паміж 3 500 і 4 200, склад паводля нацыянальнасьцяў згодна зь сьветчаньнем аднаго Сэрба, што вярнуўся ў вольны сьвет, быў гэткі:

| | |
|---|---|
| Украінцаў | 40 % |
| Балтаў (Латышоў, Эстонцаў, Летув.) | 32 % |
| **Беларусаў** | **15 %** |
| Немцаў | 4 % |
| Палякаў | 2 % |
| Румынаў і Чэхаў | 2 % |
| **Расейцаў** | **2 %** |
| Югаславаў | 1,5% |
| Жыдоў | 1 % |
| Розных азіяцкіх народаў | 0.5% |

Пра Беларусаў знаходзім сьветчаньні і ў іншым месцы кніжкі.

П. УРБАН

# Да пытаньня аб савецкай нацыянальнай палітыцы

Гаворачы аб савецкай нацыянальнай палітыцы, у першую чаргу трэба мець на ўвазе ейную ўзаемасувязь з марксістаўскім прынцыпам аб інтэрнацыянальным адзінстве пралетарыяту, з аднаго боку, і традыцыйнымі праявамі вялікадзяржаўніцкіх тэндэнцыяў расейскага камунізму,[1]) з другога. Першы прынцып, які мае ў сабе чыста тэарэтычны й абстрактны зьмест, вымагае падпарадкаваньня нацыянальнага пытаньня галоўнай праблеме сацыялістычнай рэвалюцыі — праблеме аб дыктатуры пралетарыяту, у той час, як другая тэндэнцыя, падказваная жыцьцёвай практыкай і якая, як будзем бачыць далей, разьвіваецца наўсуперак першаму прынцыпу, і часамі навет ігнаруючы яго мае на ўвазе толькі абарону гістарычных інтарэсаў расейскага народу на шкоду прапагаваным ідэялам камунізму й нацыянальным інтарэсам іншых падсавецкіх народаў. Менавіта ў гэтай узаемасувязі трэба шукаць тыя парадоксы й тыя заганныя бакі савецкай нацыянальнай палітыкі, якія даюць усе падставы зрабіць выснаў, што яна накіраваная ў канчальным выніку толькі да абароны гістарычных інтарэсаў расейскага народу.

Кіруючыся быццам-бы гэтым прынцыпам пралетарскай салідарнасьці ў змаганьні за ажыцьцяўленьне сацыялістычнай рэвалюцыі, бальшавікі й асабіста Ленін аж да кастрычніцкага перавароту ў Расеі ў 1917 годзе ўсімі сіламі супрацьставіліся ня толькі ідэі разьдзелу Расейкай Імпэрыі на паасобныя больш-менш незалежныя нацыянальныя рэспублікі, але й ідэі стварэньня ў ейных межах нацыянальна-культурных аўтаноміяў. Не магло таксама быць мовы аб фэдэральным ладзе будучай сацыялістычнай дзяржавы. А гэта таму, — як адзначаў Ленін у сваім артыкуле «Крытычныя заўвагі да нацыянальнага пытаньня», — напісаным у 1913 годзе, што бальшавікі ўважалі, што «цэнтралізаваная вялікая дзяржава зьяўляецца вялізарным гістарычным крокам наперад ад сярэднявяковай раздробленасьці да будучага сацыялістычнага адзінства цэлага сьвету, і інакш, як праз такую дзяржаву (неразрыўна зьвязаную з капіталізмам) няма і быць ня можа шляху да сацыялізму».[2])

У праграме РСДРП, прынятай у 1913 годзе на Другім зьезьдзе партыі, разьвязаньне нацыянальнага пытаньня прадбачвалася толькі ў наступных межах: а) шырокае мясцовае самакіраўніцтва; акруговае самакіраўніцтва для тых мясцовасьцяў, якія вырозьніваюцца асаблівымі бытавымі ўмовамі і складам насельніцтва; б) права насельніцтва атрымоўваць асьвету ў роднай мове, забясьпечанае стварэньнем на кошт дзяржавы й органаў самакіраўніцтва неабходных школаў; права кажнага грамадзяніна ўжываць родную мову нароўні з дзяржаўнай ўва ўсіх мясцовых, грамадзкіх і дзяржаўных установах; в) права на самавызначэньне ўсіх нацыяў, якія ўваходзяць у склад дзяржавы.[3]) Такім чынам, разьвязаньне нацыянальнага пытаньня зводзілася толькі да прызнаньня нерасейскім народам **права** на карыстаньне роднай мовай, якая ў сваю чаргу выціскалася **агульнадзяржаўнай расейскай мовай.** Што тычыцца палажэньня гэтай праграмы аб «праве на самавызначэньне ўсіх нацыяў», дык гэта было толькі справай партыйнай тактыкі. Аб тым, між іншага адкрыта гаварыў сам Ленін ў сваім лісьце да С. Г. Шаумяна з 6 сьнежаня 1913 году, дзе ён адзначаў, што «права на самавызначэньне — гэта выключэньне з нашай агульнай перадумовы цэнтралізму. Выключэньне гэтае, бязумоўна, неабходнае перад фактам чорнасоценскага вялікарасейскага нацыяналізму, і найменшая адмова ад гэтага выключэньня зьяўляецца апартунізмам, дурненькай гульнёй на карысьць вялікарасейскага чарнасоценскага нацыяналізму. Але выключэньне нельга тлумачыць шырока. **Нічога**, абсалютна нічога, апрача **права** на аддзяленьне, тут няма і быць не павінна».[4])

Аднак, з агульным разьвіцьцём нацыянальна-вызвольных рухаў нерасейскіх народаў Расейскай Імпэрыі, асабліва ў сувязі з гэтым разьвіцьцём пасьля ажыцьцяўленьня ў Расеі Лютаўскай рэвалюцыі, павінна была таксама зьмяніцца й тактыка бальшавікоў у нацыянальным пытаньні. Упяршыню Ленін прызнаў дапушчальнасьць фэдэратыўнага ладу будучай сацыялістычнай дзяржавы, як пераходнай формы да «цэнтралістычнай рэспублікі» толькі напярэдадні кастрычніцкага перавароту, у сваёй працы «Дзяржава і рэвалюцыя», якая была напісаная ў ліпені-верасьні 1917 году.[5]) Першым праграмным дакумантам бальшавіцкай партыі ў нацыянальным пытаньні была «Дэклярацыя правоў народаў Расеі», абвешчаная пасьля кастрычніцкага перавароту 2 (15) лістапада 1917 году, і які часта выкарыстоўвае цяпер партыя, уважаючы яго ўзорам сусьветна-гістарычнага значэньня ў разьвязаньні нацыянальнага пытаньня, вядучы ад яго генэалёгію свае нацыянальнае палітыкі. У ім адзначалася: «Выконваючы волю зьездаў Саветаў, Савет народных камісараў пастанавіў пакласьці ў аснову свае дзейнасьці ў пытаньні аб нацыянальнасьцях Расеі наступныя прынцыпы: 1) роўнасьць і сувэрэннасьць народаў Расеі; 2) права народаў Расеі на вольнае самавызначэньне, аж да аддзяленьня й стварэньня самастойнай дзяржавы; 3) скасаваньне ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаваньняў; 4) вольнае разьвіцьцё нацыянальных мяншыняў і этнаграфічных групаў, якія насяляюць тэрыторыю Расеі».[6]) Як бачым, партыя зрабіла такім чынам вялізарны прагрэсыўны крок наперад у нацыянальным пытаньні, але, нажаль, гэта было толькі праграмнай дэклярацыяй і засталося ёю, ня прынёсшы істотных зьменаў у жыцьці народаў, якія ўваходзяць у склад СССР.

Як мы адзначалі вышэй, гэтыя зьмены ў нацыянальнай палітыцы бальшавікоў былі вымушаныя мамэнтам часу. Пра гэта адкрыта гаварыў Сталін, адзначаючы ў заўвагах да свайго артыкулу «Супраць фэдэралізму», напісаных у сакавіку 1917 году, што «гэтую эвалюцыю пагляд.аў партыі ў пытаньні аб дзяржаўнай фэдэрацыі й наагул у нацыянальным пытаньні трэба тлумачыць трымя прычынамі. Папершае, тым, што ў мамэнт Кастрычніцкага перавароту шэраг нацыянальнасьцяў Расеі **выявіўся фактычна** (падкр. Рэд.) у стане поўнага аддзяленьня і поўнай адарванасьці адна ад аднае, дзеля чаго фэдэрацыя выявілася крокам наперад ад разрозьненасьці працоўных масаў гэтых нацыянальнасьцяў да іхнага збліжэньня, да задзіночаньня. Падругое, тым, што самыя формы фэдэрацыі, што вызначаліся ў працэсе савецкага будаўніцтва, выявіліся далёка ня так супярэчнымі мэтам эканамічнага збліжэньня працоўных масаў нацыянальнасьцяў Расеі, як гэта магло здавацца раней, ці навет, зусім ня супярэчнымі гэтым мэтам, як паказала ў далейшым практыка. Патрэйцяе тым,

**З радыёвай хвалі «Свабода»**

# Да дзевяностагодзьдзя нараджэньня Адама Гурыновіча

Адам Гурыновіч належыць да тых сьветлых постацяў нашага адраджэньня XIX стагодзьдзя, якія будуць заўсёды прыкладам для беларускае моладзі ў ейным нясупынным змаганьні з панявольнікамі роднага краю.

Нарадзіўся Гурыновіч у 1869-ым годзе ў хвальварку Кавалі. Вялейскага павету. Пачатковую асьвету атрымаў дома, пасьля вучыўся ў Вільні.

Паходзячы з заможнае сям'і, малады Гурыновіч нязвычайна войстра адчуваў сацыяльны й нацыянальны зьдзек, што чынілі беларускаму народу царскія прыгнятальнікі. Мураўёўская рэакцыя была тады яшчэ ў поўнай сіле: беларуская мова забароненая, навучальныя й культурныя ўстановы пазачыняныя, гістарычныя духовыя вартасьці краю зрабаваныя або патаптаныя. Але ў паняволеным народзе жыла памяць бунтарнага Кастуся Каліноўскага й геройскага змаганьня паўстанцаў супраць царскіх прыгнятальнікаў.

Ідэя вызваленьня Беларусі, хоць скрываўленая мураўёўскім перасьледам, будзіла жывы водгук у душах беларускае моладзі. Водгук гэты ў вельмі раньнім веку пачуў у сабе і Гурыновіч. Ён пачаў уважліва прыглядацца да жыцьця паднявольнага краю, і ня мог не заўважыць у нетрах свайго прыгнобленага люду вялікіх багацьцяў народнай душы. Ягоную ўвагу прыцягнула да сябе народная творчасьць. Будучы паэтам пачаў цікавіцца жыцьцём народу, запісваць ягоныя песьні, легэнды, байкі. А пасьля, грунтуючыся на народных скарбах, пачаў і сам пісаць. Скончыўшы Віленскую Гімназію, Адам Гурыновіч паехаў на навуку ў Пецярбург і запісаўся там у тэхналягічны інстытут.

У тагачаснай сталіцы царскай імпэрыі, дзе вучылася шмат беларускае моладзі — гарачых патрыётаў нацыянальнага адраджэньня Беларусі — Гурыновіч адразу-ж уліваецца ў рэвалюцыйнае студэнцкае жыцьцё. Ён стаецца сябрам заснаванае ў 1889 годзе студэнцкае арганізацыі пад назовам «Кружок моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай». Прыяжджаючы з Пецярбургу на Беларусь, ён шырака распаўсюджваў ідэю вызваленьня роднага краю з-пад чужацкага панаваньня. Ён дакладна ведаў гісторыю паўстаньня Каліноўскага, належаў да гуртка, дзе сьвята ўшаноўвалася геройства Грынявецкага, быў вельмі блізка азнаёмлены з абуджальнай паэзіяй Францішка Багушэвіча. Да Багушэвіча паэта ставіўся з асабліва вялікай пашанай, насьлядоўваючы яго ў сваіх творах. Гэта Багушэвічу пісаў ён, чуючыся ягоным насьлядоўнікам і пераймальнікам.

«Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі гукі нашай роднай мовы.»

У 1893-ім годзе ў Кракаве, за свой уласны кошт, Адам Гурыновіч выдае кніжку пад загалоўкам «Зборнік беларускіх твораў». У тым-жа самым 1893-ім годзе царская паліцыя арыштавала паэту. Здарылася гэта ў Вільні ў доме бацькоў, калі сярод ягоных папераў у часе вобыску паліцыя знайшла напісаны ім беларускі верш, у якім паэта заклікаў беларускі народ прачнуцца й ськінуць зь сябе ярмо царызму. Арыштаваны Гурыновіч апынуўся ізноў у Пецярбургу, гэтым разам — у Петрапаўлаўскай Крэпасьці. У турме ён прасядзеў блізу году ды моцна падняпаў здароўем. Хворага, яго выпусьцілі зь няволі, але аддалі пад нагляд паліцыі ў двор ягонага бацькі ў Крыстанопалі Сьвянцянскага павету. Вярнуўшыся дамоў із зруйнаваным здароўем, Гурыновіч захварэў на чорную воспу, што прывёз з сабой з паўночнае сталіцы, і ў студзені 1894-га году памёр, пражыўшы ня поўных 25 гадоў. Паліцыя пільна сачыла за паэтам, і ў вестку пра ягоную сьмерць не паверыла датуль, пакуль маці нябожчыка не паказала жандарам труп свайго замучанага сына.

Ня гледзячы на тое, што Адам Гурыновіч — ахвяра **царскага** перасьледу, быў час, што і ў **савецкай** Беларусі пра яго нельга было згадваць — толькі таму, што Гурыновіч — беларускі патрыёт. Цяпер беларуская цэнзура крыху паднялаа забараняльную заслону. Імя паэты й некаторыя ягоныя творы згадваюцца — праўда, зь няўнікненай прыстаўкай пра марксізм і пасьлядоўніцтва за расейскімі народавольцамі. Тым ня менш, бальшыня паэтавай спадчыны ўсё яшчэ пад замком. У сувязі з гэтым, напрыклад, 15-га ліпеня сёлета дасьледнік гісторыі беларускай літаратуры Сьцяпан Майхровіч пісаў у газэце «Літаратура і мастацтва», што пара ўрэшце перавыдаць выпушчаны ў 1893-ім годзе Гурыновічаў «Зборнік беларускіх твораў», а таксама апублікаваць іншыя творы паэты. Да гэтага часу, як бачым, нічога ня было зроблена, каб даць беларускаму чытачу літаратурную спадчыну замучанага царскай паліцыяй народнага змагара.

# На паперы і ў запраўднасьці

(Заканчэньне з 1-ай бач.)

цьвердзіць газэта «Известия», аб спэкулятыўных махінацыях Лыскіна ведалі ня толькі ў раённым цэнтры, але і ў Стаўропалі. Але яго не кранalі, бо «некаторым прыемна было грэцца ў праменьнях» славы Лыскіна.

З апублікаваных матар'ялаў відаць, што на агульным сходзе сяброў калгасу Лыскін ня быў выбраны старшынём калгасу «Расея». Ці быў Лыскін прыцягнуты да судовае адказнасьці — вестак няма. Ягоная дзейная натура вышукоўвала ўсемагчымыя шляхі для здабыцьця калгаснага багацьця, а дзеля гэтага ён не зьвяртаў увагі на гэтак званую «камуністычную этыку», што й прывяло да адхіленьня яго ад кіраўніцтва калгасам.

Парушаньне дзяржаўнае дысцыпліны праяўляеацца ў розных формах. Прыкладам, у саўгасе «Буда-Кашалёўскі» Гомельскай **вобласьці быў складзены** хвальшывы кармовы балянс. Паводля гэтага балянсу вясною ў саўгасе на паперы аказалася больш двух тысячаў сіласу. А на самай справе ні сіласу, ні іншых кармоў для жывёлы ў саўгасе да вясны не хапіла. Былі выпадкі, калі жывёла здыхала ад бяскорміцы.

Старшыня калгасу «Расьсьвет» Маладэчанскай вобласьці падаў у справаздачы, што пад сёлетні ураджай было нарыхтавана й вывезена на поле 32.265 тонаў навозу й торфу. А тымчасам, паводля заявы брыгадзіраў, у запраўднасьці было вывезена 9.640 тонаў («Сельское хозяйство», 24. 6. 59). Ураджай у гэтым калгасе за апошнія гады падымаўся толькі на паперы. У справаздачах раёну было адзначана, што за 1958 год сярэдні ўраджай збожжавых культураў складаў 9,6 цэнтнараў з гэктару, а фактычна ён не перавышаў 8,5 цэнтнараў. Бульбы атрымана з гэктару 65 цэнтнараў, а ў справаздачы адзначана 86 цэнтнараў.

Падобнае палажэньне і ў шматлікіх іншых калгасах і саўгасах. Бальшыня розных формаў ашукоўваньня дзяржавы наглядаецца ў гэтак званых перадавых гаспадарках, якія часта дасягалі гэтага імя якраз вышэйадзначанымі мэтадамі. Для таго, каб утрымацца на ўзроўні перадавога калгасу ці саўгасу, кіраўнікі іх змушаны і ў далейшым паслугоўвацца ўсемагчымымі хітрыкамі.

Прычыны такога шырокага парушаньня дзяржаўнае дысцыпліны калгасамі й саўгасамі знаходзяцца ў самой савецкай сыстэме. Камуністычныя кіраўнікі розных рангаў у сваіх выступленьнях нязьменна цьвердзяць аб нябывалых дасягненьнях сельскае гаспадаркі. У такіх цьверджаньнях нязначныя дасягненьні перабольшваюцца, а няўдачы ў паасобных галінах сельскае гаспадаркі прамоўчваюцца ці значна зьмяншаюцца. У статыстычных матар'ялах правалы ў сельскай гаспадарцы ня маюць адлюстраваньня або ўмела закрываюцца працэнтнымі паказьнікамі. Усе гэтыя прыёмы не зьяўляюцца сакрэтам для кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў. Тымчасам ад іх патрабуецца праяўленьня ініцыятывы, буйных ураджаяў на палёх, высокіх надояў. Усялякія няспрыяльныя ўмовы для атрыманьня хуткіх і эфэктоўных удачаў на ўвагу не бяруцца.

Пры такіх умовах працы кіраўнікі калгасаў і саўгасаў ствараюць «дасягненьні» ў гаспадарках прыпісваньнем у справаздачах, складаньнем фіктыўных кармовых і іншых балянсаў, выконваньнем плянаў здаваньня дзяржаве прадукцыі. закупленай з боку й г. д. Фактычна на мясцох ужываюцца ўсе тыя мэтады, якімі карыстаецца камуністычнае кіраўніцтва й органы прапаганды пры папулярызаваньні «дасягненьняў» у сельскай гаспадарцы. Масавыя парушаньні дзяржаўнае дысцыпліны ў арганізацыях сельскае гаспадаркі выцякаюць зь існуючай у савецкай дзяржаве сыстэмы перабольшваць сумлеўныя ўдачы й дасягненьні.

**В. Б.**

# Праблема мовы ў СССР

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

скрыжоўваньня вельмі складаны, а галоўнае — вельмі працяглы. Ён дае шмат магчымасьцяў да выяўленьня актыўнага й пасыўнага супраціву абрусеньню нацыянальных моваў. Між іншага такі супраціў праявіўся ўва ўсіх нацыянальных рэспубліках СССР у пэрыяд адноснае «адлігі», выкліканай сьмерцяй Сталіна, і ён ня зломаны поўнасьцяй яшчэ й да гэтага часу.

Больш эфэктоўным, больш хуткім мэтадам русыфікацыі цяпер прызнаны шлях насаджваньня ў цэласьці расейскае мовы й расейскае культуры ў нацыянальных рэспубліках СССР.

Кіраўніцтва ЦК КПСС рознымі эканамічнымі, культурнымі й палітычнымі мерапрыемствамі, стварае ўмовы пры якіх веданьне расейскае мовы, падобна да «дабраахвотнае» калектывізацыі ці масавага перасяленьня народаў, становіцца, фактычна, абавязкавым.

Узаконеньне расейскае мовы ў якасьці службовай ува ўсіх галоўных галінах эканамічнага, палітычнага й дзяржаўнага жыцьця СССР (прамысловасьць, транспарт, сувязь, армія, партыя, вонкавапалітычныя й нутранапалітычныя, фінансавыя й гандлёвыя органы, важнейшыя навучальныя ўстановы), узносіць расейскую мову ў выразна прывілеяванае становішча й робіць яе фактычна дзяржаўнай мовай усяго СССР, а гэта вядзе да яе хуткага замацоўваньня ды ў той-жа час да адміраньня іншых нацыянальных моваў. Выходзячы з гэтага, змаганьне нерасейскіх народаў за чысьціню сваіх нацыянальных моваў практычнага значаньня ня мае. Пры такім разьвязаньні пытаньня, зразумела, лёс іх трагічны. Зусім натуральна, што ў такіх умовах сярод нерасейскіх народаў што раз больш людзей вывучае расейскую мову. Гэтаму спрыяе партыя самымі рознымі арганізацыйнымі, гаспадарчымі й палітычнымі мерапрыемствамі. У дадатак трэба адцеміць, што ў сучаснай русыфікатарскай палітыцы КПСС важную ролю граюць таксама й перасяленьні ды зьмешваньні народаў СССР. Апошняй кампаніяй асваеньня цалінных земляў савецкі ўрад стварыў, прыкладам, у Казахскай СССР такое становішча, пры якім туземнае жыхарства рэспублікі складае ледзь адну трэціну. Гэта прывяло ня толькі да таго, што новапрыбыўшыя пасяленцы дзесяткаў розных нацыянальнасьцяў павінны выбраць сваёй агульнай мовай расейскую мову й вучыць яе сваіх дзяцей, але й распыліла туземнае жыхарства сярод пасяленцаў, стварыўшы ўмовы, пры якіх дзеці павінны вучыцца ў школах з расейскай мовай выкладаньня. Таму й ня дзіва, калі «Коммунист» з асаблівым задаваленьнем адзначае, што ў Казахскай ССР чацьвертая частка дзяцей Казахаў вучыцца ў расейскіх школах.

У гэтай вялікай акцыі галоўную ролю граюць камуністычныя партыі нацыянальных рэспублік, якія панявольніцку выконваюць загады ЦК КПСС.

«Змаганьне з мясцовым нацыяналізмам, узгадаваньне ўсіх раней прыгнечаных нацыяў у духу братэрства й дружбы між імі, у духу бязьмежнае любові й прызнаньня вялікаму расейскаму народу зьяўляецца самым першым абавязкам передусім камуністых гэтых нацыяў», — піша той-жа «Коммунист» (№ 13, 1959, б. 43).

Характэрным зьяўляецца тое, што ўва ўсіх артыкулах і выступленьнях прадстаўнікоў камуністычных партыяў нацыянальных рэспублік, усе яны патрабуюць узмацненьня змаганьня зь мясцовым нацыяналізмам, кляймуючы яго самым рэакцыйным і самым жывучым буржуазным перажыткам мінулага. Праблема расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму ў СССР амаль перастала існаваць так як шмат чаго зь яго сталася сутнасьцяй нацыянальнай палітыкі ЦК КПСС.

**В. М. Міняйло**

(«Анализ текущих событий в СССР»)

### ШТО СКАЖА НА ГЭТА РАДЫЁ «СВАБОДА»?

«Новое Русское Слово» (23. X. 59), якое ціраз нападала на беларускіх патрыётаў-незалежнікаў з лаянкай і рознымі абвінавачаньнямі, у сваёй перадавіцы пацьвердзіла ўрэшце ўсё тое, за што раней лаялася. Гэтая найбольш папулярная расейская штодзённая газэта ў ЗША сама прызналася, што ў савецкай імпэрыі пануе расейскі вялікадзяржаўніцкі шавінізм і русыфікацыя. НРС піша:

«Пралетарская ўлада, як выяўляецца, пасьлядоўна й няўхільна праводзіць ува ўсіх 14-х — для РСФСР няма ў гэтым патрэбы — саюзных рэспубліках **насільную русыфікацыю** (падч. рэд. «Б»), за якую страляў грознымі пярунамі яшчэ 50 гадоў таму на царскі ўрад Ленін».

Характэрна, што тады, калі рэакцыйная ў дачыненьні да незалежнасьці нерасейскіх народаў газэта «Новое Русское Слово» пацьвярджае існаваньне насільнае русыфікацыі ў Савецкім Саюзе, «прагрэсыўная» радыястанцыя «Свабода», якою апякуецца Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня, забараняе нерасейскім рэдакцыям ужываць тэрмін «русыфікацыя».

**А. Б.**

### ШТО-Ж АПРАЧА КРЫТЫКІ?

Шмат крыку й закідаў рабілася дый робіцца з тае прычыны, што радыё «Свабода» («Вызваленьне») не дае Беларусам магчымасьці гаварыць **аб усім** да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне.

Ад 8 сьнежаня леташняга году, значыцца, ужо бадай год часу, беларуская рэдакцыя Гішпанскага Нацыянальнага Радыя мае магчымасьці гаварыць **аб усім.**

Цікава, колькі матар'ялаў паслалі ўсе гэныя крытыкі «Вызваленьня» ў беларускую рэдакцыю мадрыдзкага радыя?

**Я. З.**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

што ўдзельная вага нацыянальнага руху выявілася куды больш важнай, а шлях задзіночаньня — куды больш складаным, чымся гэта магло здавацца раней, у пэрыяд да вайны, або ў пэрыяд да кастрычніцкай рэвалюцыі».[7]) Такім чынам выстаўленьне прынцыпу фэдэратыўнага ладу савецкай дзяржавы й наагул абвешчаньне «Дэклярацыі правоў народаў Расеі» былі абумоўленыя разьвіцьцём нацыянальных рухаў нерасейскіх народаў Расейскай Імпэрыі.

Падругое, палажэньне «Дэклярацыі правоў народаў Расеі» аб тым, што народам Расеі прызнаецца «права на вольнае самазызначэньне, аж да аддзяленьня й стварэньня самастойнай дзяржавы» было толькі палітычнай тактыкай партыі на дадзеным этапе, тым ленінскім «нічога», апрача «права на аддзяленьне». Зьвернемся ў гэтым пытаньні да выказваньняў Сталіна. Выступаючы ў 1918 годзе на красавіковай канфэрэнцыі РСДРП з дакладам ў нацыянальным пытаньні, ён тады адзначаў: пытаньне аб праве нацыяў на вольнае аддзяленьне недазваляльна зьмешваць з пытаньнем аб **абавязковасьці** аддзяленьня нацыі ў той ці іншы мамэнт. Гэтае пытаньне партыя пралетарыяту павінна разьвязваць у кажным паасобным выпадку зусім самастойна, у залежнасьці ад абставінаў. Прызнаючы за прыгнечанымі народнасьцямі права на аддзяленьне, **права** пастанаўляць аб сваім палітычным лёсе, мы не разьвязваем гэтым самым пытаньня аб тым, ці **павінны** у дадзены мамэнт аддзяліцца якія-небудзь нацыі ад Расейскай дзяржавы. Я магу прызнаць за нацыяй права аддзяліцца, але гэта яшчэ не азначае, што я забавязаўся гэта зрабіць. Народ мае права аддзяліцца, але ён, у залежнасьці ад умоваў, можа й не скарыстаць з гэтага права».[8])

Гэты пункт гледжаньня на разьвязаньне нацыянальнага пытаньня Сталін выказваў і ў сваіх наступных выступах і артыкулах у нацыянальным пытаньні, проста заяўляючы ў 1920 годзе ў прадмове да свайго зборніку артыкулаў у нацыянальным пытаньні, што бальшавікі былі «супраць аддзяленьня ўскраінаў ад Расеі, бо аддзяленьне ў гэтым выпадку азначае імпэрыялістычную кабалу для ўскраінаў, паслабленьне рэвалюцыйнай магутнасьці Расеі, узмацненьне пазыцыі імпэрыялізму».[9])

Дакладна так гэты прынцып бальшавікоў у нацыянальным пытаньні ажыцьцяўляўся і на практыцы. Прыкладам, прызнаючы ў тэорыі права кажнай нацыі на самавызначэньне й стварэньне нацыянальнай дзяржавы, яны ў канцы 1917 году разагналі Першы Ўсебеларускі Кангрэс, скліканы ў Менску дзеля разьвязаньня пытаньня аб дзяржаўным ладзе Беларусі, прызнаўшы ў сярэдзіне сьнежаня 1917 году незалежнасьць Украінскай Народнай Рэспублікі,[10]) яны адначасна інсьпіруюць скліканьне ў Харкаве гэтак званага Першага Ўсеукраінскага Зьезду Саветаў, які із свайго боку абвяшчае стварэньне Украінскай Савецкай Рэспублікі, як фэдэральнай часткі РСФСР,[11] і вітае гэты новы твор, абяцаючы яму ўсебаковую эканамічную й вайсковую падтрымку.[12]) Дакладна таксама абвяшчаюцца савецкія рэспублікі ў Прыбалтыцы, на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі, і ствараюцца іхныя марыянэткавыя савецкія ўрады, а ў пачатку 1918 году пачынаецца ваенная інтэрвэнцыя РСФСР ў дачыненьні да гэтых народаў і створаных імі нацыянальна-незалежных дэмакратычных рэспублікаў. У выніку гэтай інтэрвэнцыі на працягу 1918-21 гадоў зноў былі далучаныя да Расеі Беларуская і Украінская народныя рэспублікі, Народныя рэспублікі народаў Закаўказьзя і Сярэдняй Азіі. Вонках Савецкай Расеі засталіся толькі Фінляндыя, Прыбалтыцкія рэспублікі і Польшча. Як ведама ў 1940 годзе да СССР былі далучаныя таксама Літоўская, Латыская і Эстонская народныя рэспублікі. Так ажыцьцявілася, як адзначае савецкі гісторык В. М. Хвостаў, «узьеднаньне» з Савецкім Саюзам земляў, «гвалтам адарваных Антантай ад Савецкай Расеі ў 1919 годзе».[13])

Адзіна дзейным прынцыпам нацыянальнай палітыкі бальшавікоў таго часу заставаўся толькі прынцып наладжаньня савецкай дзяржавы на фэдэральных пачатках. Падчас працы Трэцяга Ўсерасейскага зьезду Саветаў у студзені 1918 году была прынятая «Дэклярацыя правоў працоўных і эксплаатаванага народу», у якой гаварылася, што 1) Расея абвяшчаецца рэспублікай Саветаў работніцкіх, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Уся ўлада ў Цэнтры і на месцы належыць гэтым Саветам; 2) Расейская Савецкая Рэспубліка засноўваецца на базе вольнага саюзу вольных нацыяў, як фэдэрацыя савецкіх нацыянальных рэспублік.[14]) Такім чынам, было абвешчанае стварэньне аднэй Расейскай Савецкай Фэдэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі (РСФСР), у якую павінны былі ўваходзіць у якасьці аўтаномных адзінак усе «нацыянальныя акругі і ўскраіны» былое Расейскае Імпэрыі. На працягу 1918-22 гадоў гэты прынцып заставаўся ў сіле, зьмяняючыся настолькі, наколькі гэтага вымагалі палітычныя абставіны. Прыкладам у пачатку 1919 году была абвешчаная «незалежная» Беларуская Савецкая Рэспубліка,[15]) і зьліквідаваная ў гэтым-жа годзе, а пазьней, у 1920-21 гадох былі створаныя падобныя рэспублікі Азэрбайджану, Армэніі й Грузіі на Каўказе, пазьней перайменаваныя ў Закаўказкую Сацыялістычную Фэдэратыўную Савецкую Рэспубліку, а таксама Харэзмскай і Бухарскай народных рэспублік у Сярэдняй Азіі.

---

[1]) Партыйны прынцып аб сваеасаблівым «расейскім камунізьме» нельга запярэчыць. Ён акрэсьліваецца ў першую чаргу высоўваньнем савегамі на першы плян гэтак званага «ленінізму». Гэты прынцып быў аформлены асабліва ў маскоўскай «Дэклярацыі камуністычных партыяў», выпрацаванай у лістападзе 1957 году. Аб «расейскім рэвалюцыйным прыкладзе» ў свой час яшчэ гаварыў Ленін. Менавіта гэтае палажэньне Леніна зафіксавалася ў ягонай працы «Дзіцячая хвароба ‚лявізны' у камунізьме», напісанай у 1920 годзе (Творы, т. 31, выданьне 4, 1950, бач. 5—6). Цяпер прапагаваньне «расейскага камунізму» дасягнула вяршыняў у сваім разьвіцьці, акрэсьліваючы савецкія сацыялістычныя пераўтварэньні як прыклад сусьветна-гістарычнага значэньня, як прыклад гістарычных дасягненьняў людзкога генія, генія «найбольш перадавога й найбольш рэвалюцыйнага расейскага народу» (у гэтым пытаньні гл. хоць-бы артыкул А. В. Пяскоўскага «Да пытаньня аб прагрэсыўным значэньні прылучэньня Сярэдняй Азіі да Расеі», «Вопросы Історіі», № 8, 1959, бач. 21—46).

[2]) В. И. Ленин, Сочинения, т. 17, выд. 3, б. 154.

[3]) КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК, ч. I, Масква, 1953, б. 40.

[4]) В. И. Ленин, Соч., т. 17, выд. 3, 1935, б. 90.

[5]) Тамсама, т. 21, выд. 3, 1935, б. 418—420.

[6]) Образование СССР. Сборник документов, 1917—1924. Масква—Ленінград, 1949, № 1, б. 20.

[7]) И. В. Сталин, Соч., т. 3, Масква, 1950, б. 30—31.

[8]) Тамсама, б. 52.

[9]) Тамсама, ю. 4, б. 372.

[10]) В. И. Ленин, Соч., т. 22, б. 121—123.

[11]) Образование СССР, № 32—33, б. 72—74.

[12]) Тамсама, № 35, б. 75.

[13]) В. М. Хвостов, Основные этапы внешней политики Советского государства за сорок лет, «Новая и новейшая история», № 4, 1957, б. 77.

[14]) Образование СССР, № 10, б. 29—30; № 27, б. 54.

[15]) Тамсама, № 76, б. 115-118.

(Далей будзе)

